**ТОЛЬКІ ТАК!**

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

**Снежань 2011**

**Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"**

**«БІЛОРУСЬКОМОВНЕ ДІЛОВОДСТВО!»**

**МОВА ВІДПОВІДЕЙ:**

- *білоруська*
- *російська, потім білоруська*
- *російська*
- *принципово не вживають білоруську*

МІНСЬК






## Справаводства не па-беларуску:

# Ці патрэбна беларуская мова ў Беларусі?

# Справаводства не па-беларуску

***Ці патрэбна беларуская мова ў Беларусі? Наша дзяржава – адна з нямногіх краінаў свету, дзе часта думаеш пра гэта. У вершах і прозе, дарэчы, думаеш. Думаць наогул карысна – для захавання статус-кво шэрых клетачак мозгу і для далейшага іх развіцця, а не дэградацыі.***

Беларуская мова не патрэбна ў беларускім судовым справаводстве. Факт. Канстытуцыйны суд Беларусі разгледзеў прапанову каардынатара кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігара Случака пра тое, каб заканадаўча замацаваць праверку ведаў суддзямі дзвюх дзяржмоваў – беларускай і рускай, але не знайшоў падстаў для яе ўкаранення.

Насамрэч, навошта беларускім суддзям валодаць беларускай мовай? Беларускіх апазіцыянераў усё менш ды менш... Каго судзіць па-беларуску? Навошта? У сваёй пастанове суд спаслаўся на аналіз нормаў канстытуцыі, розных кодэксаў і законаў, паведамляе БелаПАН. Усё лагічна. Усё дакладна.

Варта адзначыць, што беларускі Канстытуцыйны суд стаў адзінай установай, што разгледзела прапанову Ігара Случака. З іншых беларускіх судоў, пракуратуры і нават міністэрства юстыцыі, на адрас якіх Ігар Случак накіроўваў аналагічныя прапановы, прыйшлі адпіскі. Маўляў, гэтае пытанне ўжо «ўрэгулявана» – і ўдасканалення працэдуры ведання суддзямі беларускай мовы не патрабуецца.

Зрэшты, сам каардынатар кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак не губляе надзеі і лічыць, што разгляд пытання Канстытуцыйным судом на працягу двух месяцаў – ужо добры знак. У далейшым спадар Случак плануе скласці дадатковы зварот, дзе будзе прапанавана даць канкрэтны адказ на канкрэтнае пытанне: у папярэднім звароце былі ўказанні на канкрэтныя прабелы ў заканадаўстве, але яны былі абыдзены ўвагай.

Вось так, па прынцыпе «Хто каго пераўпарціць». Вашы стаўкі, спадарства: будуць нашы суддзі здаваць іспыт на веданне мовы ці не?

*Дар'я Ліс, Радыё Рацыя.*









# «Справаводзтва па-беларуску» патрабуе зьмяніць закон «Аб мовах»

*аўтар Алег Грузьдзіловіч*

Грамадзкая кампанія «Справаводзтва па-беларуску» накіравала ўсім 64 сябрам Савету Рэспублікі прапанову зьмяніць закон аб мовах, каб ураўнаць ужываньне беларускай і расейскай.

«Гэта 28 папраўак у артыкулы закону аб мовах. Сутнасьць папраўак — прапанова ўзаконіць прымяненьне ў роўнай ступені як беларускай, так і расейскай моваў, спыніць дыскрымінацыю беларускай мовы. Аналягічную прапанову раней я адрасаваў 110 дэпутатам ніжняй палаты парляманту, але пэрсанальных адказаў ад іх я не дачакаўся. Быў толькі агульны адказ ад імя ўсёй Палаты прадстаўнікоў», — паведаміў БелаПАН каардынатар грамадзкай кампаніі Ігар Случак.

Кампанія «Справаводзтва па-беларуску» існуе два гады. Ігар Случак дасылае лісты чыноўнікам з просьбай перавесьці іх справаводзтва на беларускую мову, і ў выпадку адказу на расейскай мове патрабуе даслаць яго па-беларуску. Сёлета патрабаваньне да чыноўнікаў адказваць грамадзянам на іх мове стала нормай закону «Аб зваротах грамадзянаў».

У жніўні Ігар Случак быў затрыманы міліцыяй напярэдадні правядзеньня прэсавай канфэрэнцыі. Актывіст плянаваў паведаміць журналістам пра вынікі пэрсанальнай кампаніі «Справаводзтва па-беларуску» і абмеркаваць магчымасьць рэфармаваньня сыстэмы МУС.








# Калі чыноўнікі загавораць па-беларуску?

**У Беларусі быццам бы ніхто не супраць беларускай мовы. Але сцвярджаць, што яе шануюць на высокім узроўні, не даводзіцца. Аднак эксперты адзначаюць: у беларускай мовы ёсць добрыя перспектывы, нягледзячы на тое, што асаблівай зацікаўленасці ў яе развіцці сённяшняе кіраўніцтва дзяржавай не выказвае.**

Беларус найчасцей выбірае мову начальніка

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ) заклікала маладых спецыялістаў карыстацца роднай мовай у сваёй прафесійнай дзейнасці.

"Сёлета, калі наша краіна адзначае 20-я ўгодкі незалежнасці, не цурайцеся роднай мовы вашых продкаў, карыстайцеся словам Янкі Купалы і Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава ў сваёй прафесійнай дзейнасці. Кожны еўрапейскі бізнесовец ці навуковец не цураецца сваёй роднай мовы і штодня ёю карыстаецца. Дык будзем жа годнымі еўрапейцамі ў сваім стаўленні да тысячагадовай мовы нашых продкаў!" — адзначаецца ў звароце ТБМ.

Але відавочна, што ў час крызісу мова хутчэй за усё далёка не першае, пра што дбаюць маладыя людзі, будуючы сваю кар'еру. Тым больш што начальнікаў – і малых, і вялікіх – яе лёс асабліва не турбуе. Беларус жа найчасцей за ўсё выбірае мову начальніка.

Мова мае патрэбу ў заканадаўчай абароне

Між тым знаходзяцца людзі, якія сваімі паводзінамі парушаюць стэрэатыпы ў дачыненні да мовы. Напрыклад, жыхар Гомеля Ігар Случак арганізаваў кампанію "Справаводства па-беларуску". У якасці каардынатара кампаніі Случак разаслаў персанальныя лісты кожнаму са 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з прапановай унесці змены ў Закон аб мовах, а менавіта змяніць 28 артыкул закона, дзе гаворка ідзе аб вядзенні справаводства на "беларускай і (або) рускай мове". Грамадскі актывіст прапануе пакінуць у фразе толькі "і", што будзе азначаць патрабаванне весці справаводства на дзвюх мовах адначасова. Тады будзе рэальная, а не фармальная роўнасць моў, даводзіць Случак.

Аднак дэпутаты палічылі немэтазгодным уносіць змены ў Закон аб мовах, бо, па іх меркаванні, прапановы Случака прывядуць да ўскладнення ў парадку выкарыстання дзяржаўных моў, да непатрэбнага ў большасці выпадкаў дублявання тэкстаў, а значыць, да значнага павелічэння грашовых і матэрыяльных выдаткаў.

- Няма ў парламенце, як аказалася, чалавека, які б займаўся абаронай нацыянальных інтарэсаў беларускага народа. А такі чалавек павінен быць. Спадзяюся, ён з'явіцца пасля наступных парламенцкіх выбараў, - заўважае Ігар Случак.

На яго думку, беларуская мова сёння не можа развівацца ў грамадстве без нарматыўнай абароны. Ёй неабходныя пэўныя заканадаўчыя прэферэнцыі для таго, каб увайсці ў кабінеты чыноўнікаў і больш актыўна выкарыстоўвацца ў грамадстве.

- Калі будзе загад ці пэўная палітыка зверху, людзі пяройдуць на беларускую мову без усялякіх складанасцяў. Калі б існавала нарматыўная база, якая спрыяла большаму распаўсюджванню беларускай мовы, гэта б аблегчыла становішча, - лічыць Ігар Случак. - Пакуль на мове асабліва не размаўляюць, бо ў прафесійным жыцці людзі вымушаныя карыстацца рускай мовай. Гэта ў шматлікіх выпадках сапраўды прасцей.

Эксперт падкрэслівае: у пытаннях мовы нельга спадзявацца толькі на ўнутранае адчуванне людзей і асабістыя адносіны да мовы. Большасць людзей ні пра што такое накшталт лёсу роднай мовы асабліва не задумваецца.

- Гэта, дарэчы, адбываецца не толькі ў нас, але і ў большасці краін свету, - канстатуе Случак. - Людзі вывучаюць тую мову, якая запатрабаваная ў грамадстве.

Дарэчы, перад тым як звярнуцца да дэпутатаў, Ігар Случак пісаў лісты ў розныя ўстановы і міністэрствы наконт больш шырокага ўжывання імі беларускай мовы. Ягоны аналіз такі - большасць адказаў маюць станоўчы настрой. Гэта значыць, што чыноўнікі не супраць ужывання беларускай мовы ў перапісцы, справаводстве, але сказаць, што яны зробяць усё, каб гэта стала распаўсюджанай з'явай, таксама нельга.

- Калі Міністэрства культуры змагло перайсці на беларускую мову як асноўную мову справаводства і выступаў, дык чаму не могуць гэтага зрабіць чыноўнікі з іншых ведамстваў? Хаця б пачалі адказваць па-беларуску на лісты, напісаныя на беларускай мове. У гэтым сэнсе з'яўляецца вельмі важным прынцыпе такога палажэння ў Законе "Аб звароце грамадзян".

Будзе незалежнасць - будзе і мова, і каўбаса

Між тым кожны беларус можа паспрыяць адраджэнню роднай мовы, калі будзе карыстацца ёю ў паўсядзённым жыцці. Стымулам для гэтага, лічыць старшыня ТБМ Алег Трусаў, павінна стаць імкненне да захавання незалежнасці і разуменне, што будзе незалежнасць - будзе мова, будзе каўбаса.

- У савецкія часы маглі нацыяналістам назваць чалавека, які размаўляў па-беларуску. Зараз сітуацыя рэзка змянілася. У нас нармальнае грамадства, і людзі добра ставяцца да ўсяго беларускага, - лічыць эксперт.

Таварыства беларускай мовы пастаянна вядзе перапіску з уладамі.

- Зараз яны ў 90% выпадкаў адказваюць на нашыя лісты па-беларуску, а раней было наадварот, - адзначае Алег Трусаў.

Дасягненнем ТБМ у галіне пашырэння мовы ў асяродку прадстаўнікоў улады можна лічыць аднаўленне курсу "Афіцыйна-дзелавая лексіка і стылістыка беларускай мовы" у сістэме перападрыхтоўкі кадраў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі. У красавіку 2011 года грамадскае аб'яднанне звярнулася да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Макея з лістом пра неабходнасць аднаўлення скасаванага курсу, які на працягу амаль 20 гадоў існаваў у гэтай навучальнай установе. Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў паведаміў аб аднаўленні ў сістэме перападрыхтоўкі кадраў Акадэміі кіравання вышэйназванага курсу. Ён будзе выкладацца на ўсіх спецыяльнасцях на працягу 24 гадзін.

У сітуацыі, якая склалася з мовай у Беларусі, Алег Трусаў з'яўляецца прыхільнікам тэорыі малых спраў.

- Без малых спраў не будзе вялікіх. У апошнія стагоддзі загінула дастаткова моў і народаў. Беларускую мову абараняе Бог. Паглядзіце, колькі кніжак выдаецца недзяржаўнымі выдавецтвамі на беларускай мове. Развіваецца рэклама на беларускай мове. Пашыраецца ўжытак мовы сярод амбасадаў у Беларусі. Ні прадстаўнікі сур'ёзнага бізнесу, ні амбасады не ўкладвалі б рэсурсы ў справу адраджэння беларускай мовы, калі б яна не мела перспектыў, - падкрэслівае Алег Трусаў.

*http://news.tut.by/society/234145_print.html*

# Закон цяпер лічыцца з беларускамоўнымі. Папраўкі ў Закон РБ «Аб зваротах грамадзян.

*Аўтар: Іна ХОМІЧ*

**Аднойчы нам даводзілася ўжо пісаць пра персанальную кампанію Ігара Случака «Справаводства па-беларуску», якая закранула ўсю Беларусь, у тым ліку і Берасцейшчыну.**

Нагадаем, кампанія ставіла за мэту палепшыць хісткае становішча беларускай мовы шляхам лабіравання зменаў у дзейснае заканадаўства. Акрамя таго, Случак рассылаў у розныя дзяржаўныя ўстановы і органы лісты з прапановай перавесці афіцыйныя паперы на нацыянальную мову. Калі адказ прыходзіў на рускай, ініцыятар кампаніі накіроўваў адрасату новы ліст, на гэты раз з патрабаваннем адказаць на запыт па-беларуску.

Што за карысць ад перапіскі з дзяржорганамі? Вынік кампаніі – гэта ўнясенне паправак у Закон «Аб зваротах грамадзян», што адбылося 18 ліпеня 2011 года – дзень у дзень праз два гады ад пачатку кампаніі. Добрая нагода пагутарыць з самім Ігарам. Хоць ён праводзіць летнія вакацыі на радзіме ў Гомелі (вучыцца ў Эстоніі), скайп здымае праблему адлегласцей.

– Ігар, патлумач, якія менавіта змены былі ўнесены ў Закон?

– Мы дабіваліся, каб адказ на пісьмовы зварот грамадзяніна даваўся на мове, на якой чалавек звярнуўся да чыноўніка. Па маёй задумцы гэта павінна было тычыцца толькі дзяржаўных моў, але дэпутаты напісалі проста: «Адказваць на мове звароту» (Артыкул 18 Закона). Таму, у прынцыпе, можна звяртацца на любой мове, і чыноўнік павінен будзе на ёй адказаць. Закон успупіць у дзеянне праз 6 месяцаў пасля яго падпісання, і я апавязкова звярнуся да каго-небудзь са зваротам на эстонскай мове, якой валодаю. Думаю, гэта будзе рэктар Мінскага інстытута кіравання Мікола Суша, які вельмі раіў мне павышаць культурны ўзровень і пашыраць кругагляд, калі я прапаноўваў даць мне адказ па-беларуску. Зараз праверым кругагляд прафесара.

– З дэпутатамі лёгка было дамовіцца пра падтрымку?

– Даволі лёгка, я б сказаў наогул без праблем, толькі крыху марудна ўсё рабілі. Асабліва добра кантактавалі мы з адказным за законапраект Яўгенам Мельнікавым.

Тут трэба адзначыць, што мы ж уздымалі праблему ў СМІ і ў сацыяльных сетках, таму яна набыла грамадскі рэзананс (і даволі вялікі), і дэпутатам не засталося нічога іншага, як пазітыўна адрэагаваць на жаданне людзей. З 1995 года ў беларускамоўных былі толькі паразы, а зараз яны атрымалі даволі гучную перамогу, і я вельмі ганаруся, што прыклаў да яе руку.

– Я так разумею, што адпачываць на лаўрах ты з аднадумцамі доўга не збіраешся. На што накіруеш высілкі далей?

– Працягнем працу па лабіраванню зменаў у накірунку заканадаўчага замацавання рэальнага дзвюхмоўя ў Беларусі. У першую чаргу гэта будуць Законы «Аб мовах», «Аб нарматыўных прававых актах», «Аб рэкламе», «Аб абароне правоў спажыўцоў».

Ну вось, да прыкладу, праз увесь дзейсны Закон «Аб мовах» праходзіць выраз «на беларускай і (або) рускай мове». Мы ж прапануем ужываць фармулёўку «на беларускай і рускай мове», што паспрыяе захаванню інтарэсаў носьбітаў абедзвюх моў.



Каб падліць усё ж такі лыжку дзёгцю ў бочку з мёдам, заўважым, што на новым вітку змагання за афіцыйную беларускамоўную прастору ліставання з чыноўнікамі і кіраўнікамі рознага кшталту відавочна не хопіць. Разумее гэта і сам Ігар Случак. Таму і збірае вакол сябе актыўных людзей, каб наступная кампанія перастала быць персанальнай. Ёсць і першыя пацверджанні старой прымаўкі «гуртом лепш і бацьку біць» (на ўсякі выпадак удакладню: размова выключна пра галаву сямейства). Кожны тыдзень моладзь абірае ахвяру з тых, хто асабліва дэманструе сваё нежаданне звязвацца з беларускай мовай на працы (вылічыць такіх людзей па выніках кампаніі «Справаводства па-беларуску» прасцей прастога), і закідваюць яе лістамі якраз з прапановай пашырыць сферу ўжывання белмовы ў падуладнай для адрасата ўстановы. Згодна з законам, ахвяра мусіць на ўсе лісты адказаць. Вока за вока, зуб за зуб.





Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" "Справаводства па-Беларуску!"
Заснавальнік: Францыск Піцерскі
Галоўны рэдактар: Алесь Пыхаў
246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя "Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"

e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо",
г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 14.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

